

*Аднаўленая карчма ў Елесне (Польшча)*

для карчомнай маёмасці, прадуктаў харчавання і святліцы для заможных наведвальнікаў.

Заезныя корчмы складаліся з «заезду», размешчанага ў цэнтры, альбо з боку карчмы, вялікай хатышынкоўні з каморкамі і гасцінных пакояў. «Заезд» быў сенцамі і стайняй, дзе ўздоўж сцен размяшчаліся жалабы, канавязі, драбіны.

У архаічных корчмах з аднаго боку «заезду» размяшчалася белая хата-гасціная для заможных падарожнікаў, з другога — чорная хата для простага люду. У некаторых корчмах пры белай гасцінай вылучаўся самастойны блок кухонных памяшканняў. У больш развітых тыпах корчмаў былі спецыяльныя стайні і вазоўні, якія размяшчаліся за «заездам» у тыле карчмы альбо перад ёю.

Невялічкая манаполька ці шынок амаль не адрозніваліся ад традыцыйнай хаты. Напрыклад, Рачкавіцкая карчма, па інвентары 1761 года, — «*зусім маленькая, з клецю і сянямі*». Блеўчыцкая, паводле таго ж інвентару, — «*малая старая карчма, дзверы з сенцаў у пакоі, прайшоўшы з пакояў праз сенцы, трапляеш у пякарню, пры ёй — клець*». Ляшнянская — «*...старая, незаезная, з сенцаў у бакавую свяцёлку дзверы, з свяцёлкі ў горніцу дзвер, з гэтага пакою ў чулан дзвер*». Адна з корчмаў зпад Смаргоні, па інвентары 1788 года, складалася з «*...чыстай горніцы і старой клеці*».

Жылыя памяшканні гатэльнага тыпу ў буйных корчмах перамяшчаліся ў мезанін, у ніжнім ярусе заставаліся толькі кухня, сталовая, гасціная, каморы.

Падвор'е корчмаў забудоўвалася гаспадарчымі і вытворчымі збудаваннямі. На ім часта размяшчаліся бровар, саладзільня, скляпы, свірны, жыллё карчмара. Пры некаторых буйных корчмах развіваліся комплексы гандлёвых





памяшканняў. У другой палове XVIII-XIX ст. на аснове корчмаў сфарміраваліся новыя тыпы збудаванняў: гасцініцы, паштовыя станцыі, пастаялыя двары і інш.

Планіроўка заезных корчмаў у сваім генезісе звязана з эвалюцыяй сялянскай сядзібы. Асноўныя тыпы: крыты круглы (вяночны) ці лінейны (пагоны) двары сталі вытокамі фармавання заезнай карчмы.

Корчмы, збудаваныя па прынцыпу крытага двара, мелі стадолу, якая знаходзілася з шынком і жылымі памяшканнямі пад адным дахам. У сярэдзіне збудавання мелася брукаваная пляцоўкапраезд і нават калодзеж. Да такога тыпу адносяцца захаваўшыяся корчмы XIX стагоддзя ў Ашмянах па вуліцы Чырвонаармейскай, 25 і ў вёсцы Гірэвічы Валожынскага раёна.

Корчмы, пабудаваныя па прынцыпу вяночнага двара, адрозніваліся тым, што шынок і жытло для пастаяльцаў аддзяляліся ад жытла карчмара, кухні і кладовак скразным праездам з канюшняй (карчма XIX стагод-дзя ў Ашмянах па вуліцы Камсамольскай, 8). Іншы раз шынок, кухня, камора, пакоі пастаяльцаў аддзяляліся ад стайні, хлявоў і сенніка скразным праездам.

Яшчэ больш шырока ў планіроўцы корчмаў выкарыстоўваліся традыцыі пагоннага двара. Канюшню-стадолу ставілі ў адну лінію з шынком і жылымі памяшканнямі.

Характэрным для Беларусі і Літвы быў варыянт забудовы, прыкладам якога можа служыць Т-падобная ў плане карчма XIX стагоддзя з вёскі Нача Воранаўскага раёна. У сярэдзіне падоўжнай сцяны, што звернута да вуліцы, — шырокія вароты. Яны вядуць у прасторныя сені, злева ад якіх — пакоі пастаяльцаў, справа — шынок і кухня, а прама – прасторная канюшня-стадола і жытло карчмара. Даследчык Зыгмунд Глогер пісаў пра такі план корчмаў, як пра адзін з найбольш распаўсюджаных у Польшчы. У Прыбалтыцы (менавіта ў Эстоніі) былі вядомы корчмы з дзвюма канюшнямі. Прычына ўзнікнення карчомнага двара гэтага тыпу хаваецца ў складаных гістарычных адносінах паміж мясцовым насельніцтвам і немцамі, чыя прысутнасць налічвала тут сем стагоддзяў. Коні і фурманкі тых і іншых ставіліся ў асобныя стайні-стадолы.


*Печ у карчме*



*Інтэр’ер сучаснай карчмы*

Знешняе аблічча карчмы залежала таксама ад будаўнічых матэрыялаў і мясцовых традыцый пластычнага аздаблення драўляных пабудоў. Падмурак з каменняў, сцены з кругляку ці брусоў, дах з дранкі ці саламяная страха надавалі пабудове пэўны каларыт. У Панямонні галоўны фасад часта меў слупавую галерэю — падсень, што надавала архітэктуры багацце святло-ценявых суадносін. Вокны карчмы ў XVI-XVIII стст. мелі пераважна свінцовыя пераплёты. Пра гэта сведчаць інвентары. Складаная драўляная сталярка з’явілася пазней.

Важным элементам інтэр’ера была печ. Асаблівая ўвага надавалася яе аздабленню. У інвентарах апісваюцца печы з каляровай кафляй: сіняй, зялёнай, шэрай. У карчме XIX стагоддзя ў Оршы па вуліцы Пралетарскай, 12, яны аздоблены кафлянымі медальёнамі з выявамі славутых пісьменнікаў.

Кухонныя печкі больш традыцыйныя, хоць ёсць падстава меркаваць, што ў раёнах, суседніх з Літвой і Латвіяй, сустракаліся і камiннага тыпу. Напрыклад, у апісанні карчмы XVIII стагоддзя ў засценку Белым пад Смаргонню ўзгадваецца печка скляпеністай канструкцыі.

Абсталяванне пакояў для пастаяльцаў было неаднолькавае. Для заможных гасцей ставіліся ложкі, шафы, скрыні для паклажы, стол з абрусам, венскія крэслы, лямпа-газоўня, свечкі ў падсвечніках. Для простых вандроўнікаў ложкамі маглі быць звычайныя драўляныя палаці каля печы.

У народным светапоглядзе адчуваюцца гумарыстычныя, жартоўныя адносіны да карчмы. Гэта замацавалася ў фальклоры.

Мужык кажа жонцы: «Трэба схадзіць у карчму на гадзінку». Жонка адказвае: «Пойдзеш на гадзінку, а прасядзіш да ночы! У карчме ж лаўкі смаляныя, як сядзеш, так і прыліпнеш». На





Віцебшчыне любілі казаць: «У карчме, як у лазні, — усе роўныя паны».

Трапна апісаў інтэр’ер карчмы ў «Пане Тадэвушы» Адам Міцкевіч:

*Налева —- зала з грамадою*
*несціханай,*
*Ля кожнае сцяны — там вузкі*
*стол драўляны.*
*І дружна ціснуцца да тых*
*сталоў, як дзеткі,*
*Такія ж простыя блізняты-*
*табурэткі.*

Дарэчы, некаторыя даследчыкі лічуць, што нараджэнне Адама адбылося ў карчме – карчме Выгода, якая знаходзілася ў 2 км ад сядзібы Завоссе.

Традыцыйная беларуская карчма — гэта цікавы і самабытны элемент народнай культуры, у якім адлюстраваны і традыцыі грамадскіх, калектыўных зносін, і шматлікія бакі разнастайных сфер жыцця і дзейнасці людзей. Колькі з ёю звязана легенд, паданняў, твораў фальклору! Хіба будзе поўнай без яе гісторыя забудовы вёскі і як уявіць сабе мястэчка без карчмы ці заезнага двара? На сённяшні дзень захаваліся адзінкі гэтых помнікаў: драўляныя корчмы XIX стст. ў Оршы, Ашмянах, у вёсках Нача Воранаўскага і Більдзюгі Шаркаўшчынскага раёнаў, мураваныя корчмы у Гродна, Ваўкавыску, Іўе, Смалянах.

**Ул. Зуеў**



*Аўтар артыкула ў сучаснай карчме*

# ШЛЯХЕЦКАЯ КУХНЯ ЧАСОЎ АДАМА МІЦКЕВІЧА



У тым, што мы ўжываем у ежу, яскрава праяўляюцца характэрныя рысы жыцця многіх пакаленняў нашых продкаў. Традыцыйная культура харчавання — неад'емная частка культуры любога народа. І нацыянальная кухня заўсёды мае працяглы час свайго развою і ніколі не спыняецца. Нацыянальная кухня не толькі набывае новае, але, нажаль, часта і губляе. З цягам часу шматлікія стравы, рэцэпты прыгатавання губляюцца.

Мы паспрабавалі аднавіць стравы шляхецкай кухні часоў Адама Міцкевіча — канца XVIII – пачатку XIX стст.

У аснове даследвання была паэма “Пан Тадэвуш”.

Пытанні кулінарыі беларусаў разглядаліся многімі даследчыкамі мінулага – А. Г. Кіркорам, У. М. Дабравольскім, П. В. Шэйнам, Е. Р. Раманавым і іншымі. Да сучасных даследчыкаў беларускай кухні можна аднесці Л.Малчанава, І.Корзуна, Г.Вештарт, а таксама Т.А. Навагродскага, які ў сваёй манаграфіі паказаў багацце і разнастайнасць традыцый беларускай народнай кулінарыі.

У канцы XVIII ст. шляхта складала да 15% насельніцтва Рэчы Паспалітай. У залежнасці ад маёмаснага стану шляхціцы, нягледзячы на шматлікія прывілеі, жылі на свае сродкі. І іх кухня таксама адпавядала маёмаснаму стану.

Неад'емнай часткай кухні шляхты была кава. З ранішняй кавы пачынаўся дзень. У некаторых сядзібах нават трымалі спецыяльную служку, адзінай задачай якой было прыгатаванне кавы.

Вось як апісвае А. Міцкевіч шляхецкую каву:

*Чаканай кавы — комплекс цырымоній!*
*Перш на падносах з кветкамі півоній*
*Нясуць імбрычкі з тым пітвом*
*духмяным.*
*Пры ім жа кубачкі парастаўляны*
*І на вяршкі судкі — прыбор к прыбору;*
*Пасуда ўся з саксонскага фарфору.*
*Свет абыдзі , але куды ні пойдзеш ,*
*Нідзе такое кавы ты не знойдзеш ,*
*Як у Літве ў нас. Па дварах заможных*
*Была майстрыха пры яснавяльможных*
*Па гатаванні кавы — кававарка.*
*З усіх кухарак лепшая кухарка.*
*Такую каву ў зернях толькі ў тары*
*З кляймом «каланіяльныя тавары»*



*Яна заказвае ў мясцовых крамах*
*Ці дастае ў купцоў з віцінаў прама.*
*Цаны любое за такі гатунак*
*Не шкода, бо з яго ж сапраўдны трунак:*
*Пах мокка, гушчыня, як мёд пчаліны,*
*І колер, быццам пацеркі з бурштыну.*
*З якой прыемнасцю бярэш рукамі*
*Той кубачак, запраўлены вяршкамі,*
*І п'еш з прыцмокамі. Вяршкі - прыправа*
*У дварах з малочнай бытавая з Ява.*
*Адтуль на кухню з ранішняга ўдою*
*Бяруць адно вяршкі пасля адстою*
*І разліваюць у судкі той згустак,*
*Каб з кавай ён прыйшоуся ўсім да густу.*

З халодных напояў самым папулярным быў хлебны квас:

*Дык, значыць, летась святам, па сняданні,*
*Сядзім на прызбе з чэляддзю тут нашай.*
*П“ём квас салоджаны, а дзесь з паддашша.*

У тэхналогіі прыгатавання квасу назіраліся лакальныя асаблівасці і мясцовыя традыцыі. Хлебны квас пілі на працягу ўсяго года, але найбольш часта ў летні час.

З алкагольных напояў ужывалі піва, дубняк, медавуху, сівуху, гарэлку:

*Ідзе ў падвал і тут жа цягне бочку піва,*
*За ёю — бочкі дубняку, старой сівухі*



*І на дэсерт папойкі — бочку медавухі.*
*З прывабным надпісам па чорным лаку -*
*Гарэлцы гданскай, мары ўсіх палякаў.*

Піва належала да старадаўніх беларускіх напояў. Піва адрознівалася па сваёй якасці, спосабам вытворчасці і смаку, у сувязі з чым падзялялася на розныя гатункі, напрыклад, карчажнае (самаробнае), аўсянае, кляштарнае, шляхецкае, марцыпанавае і інш. Лепшым гатункам лічылася марцавае піва, якое падавалася да стала самым дарагім госцям.

Піва варылі ў асноўным з ячменю, а дзе-дзе дадавалі і буракі.

Медавуха (мядуха, медуніца) варылась на Беларусі з сярэднявечча. Для яе прыгатавання мёд разбаўлялі халоднай вадой, дадавалі дрожжы, хмель, перамешвалі і залівалі ў раўляны посуд, — усё гэта вытрымлівалася у халодным месцы 6-8 сутак. Па моцнасці, якая залежыла ад прапорцый мёда і вады, адрознівалі паўтарак, двайняк, трайняк.

Гарэлка і сівуха адносіліся да моцных напояў. Першапачаткова гарэлку прывозілі з Генуі і Германіі. У паэме пра гэта і піша Міцкевіч, узгадваючы на высокую якасць гарэлкі з нямецкага Гданьска.

Гарэлку выраблялі і ў хатнх умовах. Яна была разнай якасці, у залежнасці ад сыравіны. Хатняя гарэлка сівуха пры працяглым захоўванні ў дубовых бочках набывала асаблівы смак і колер, такую называлі дубняк.

Спіртовыя напоі часцей ужываліся ў карчме, якая была неад'емным элементам ў вёскі, і мястэчка, і горада:

*У карчме? Ого! — і скварка, і папойка.*

Мясныя прадукты былі традыцыйнымі і на стале селяніна, і ў шляхціча.

Свініна ў харчаванні беларусаў ужывалася ў значна большай колькасці, чым бараніна і ялавічына. Сала салілі, капцілі. Яно было папулярнай стравай і кампанентам страў. Асобна рабілі каўбасы, салцісон, кумпякі, іншыя прысмакі.

Шырока выкарыстоўвалі ў шляхецкай кухні і мяса свойскіх кур і гусей:

*Мужчынам іх сняданак быў паданы*
*У другім раскладзе: смажанай паўгускі,*
*Язык халодны, скрылікі агузка,*
*Правэнджанага на ядлоўцы ўдала.*

Тое, як часта рыбныя стравы траплялі на стол шляхціча, залежыла ад месца размяшчэння сядзібы. Ва многіх фальварках былі свае рыбныя ставы, сажалкі. Ну а на святочных сталах рыба, часта прывазная, была абавязкова:

*Прайшлі з падносамі – і скрозь паналіваны*
*Талеркі польскім квасам, што прыгатаваны*
*Не толькі з кіслых буракоў з баравікамі,*
*А нават на пярлінках, Войскага рукамі*
*У кацел укінутымі з залатой манетай...*
*Кунтузы ў соусе, пінэлі і фігатэлі,*
*Аркасы, і блямасы, і дзіковы рэбры,*
*Ласосеў бок і горкі на тарэлках срэбных*
*Дунайскай сцерлядзі, ружовай асятрыны,*
*Турэцкіх балыкоў у скрыліках цытрыны;*
*Ікры чырвонай, чорнай, фрыкасэ, паштэтаў-*
*Хоць гаць гаці! Фантазіяй і двух паэтаў*
*Пералічыць іх нельга. Назавём, аднак жа,*
*Хоць рыбныя. Тут што ні блюда, то інакшы*
*Гатунак: шчупачкі — мальга і веліканы —*
*Вага і выгляд па маёмаснаму стану.*
*Напрыклад, лешч і карп: адзін — высакародны,*
*Другі — худы таран, брат брату тут не родны.*
*А вось кухарскі цуд — нярэзанная рыба*
*Ад галавы засмажана, а да хваста па хібу*
*Запечана, і хвост – у соусе. Здаецца,*
*Вось зараз пляcне ім – соус разальецца.*









У паэме «Пан Тадевуш» даецца апісанне прыгатавання і такой складанай стравы як бігас:

*Славуты бігас — першынец прысмакаў.*
*А вараць проста: кіслую капусту,*
*Якая ў сялян, па іх выслоўі,*
*Найлепшая пажыўнасць у здароўі*
*Не менш гадзіны з добрым тлустым мясам*
*У печы тушаць ці над жарам часам*
*У сагане, пакуль з вяршка да нізу*
*Усю масу сок і тлуснасць не праніжа.*
*Вось і гатоў ён, бігас наш, — зірніце,*
*А пах які — язык не праглыніце!.*

Для ўсёй беларускай кулінарыі было характэрна ўжыванне лясных грыбоў. Грыбы ўжывалі варанымі, смажанымі, тушанымі, марынаванымі. Для працяглага захоўвання іх сушылі.

Асабліва смачнымі былі салёныя грыбы:

*Рыжыкі бяруць усе; такой народнай ласкі*
*Грыб гэты не займеў, бо шапачкай ён шэры,*
*Але ж які на смак пад чарку на вячэры!*
*Ці ты салі яго , ці еш, зварыўшы свежы,-*
*І ўвосень і зімой не трэба лепшай ежы.*

З першых страў ў паэме ўзгадваецца літоўскі халаднік:

*Гарэлка ўкругавую абышла, паселі*
*І халаднік літоўскі моўчкі дружна елі.*

Халаднік – гэта рэдкі халодны суп, які гатавалі на сываратцыабо смятане, але часцей — з бурачнага адвару. Яго запраўлялі зялёнай цыбуляй, агуркамі.



З малочных страў акрамя смятаны шырока выкарыстоўваўся і тварог. Пры гэтым спосабы яго ўжывання былі дастаткова вытанчанымі:

*Нясе тварог , заліты цёплым півам*
*І зверху прыаздоблены смятанай.*

З разнастайных салодкіх прысмакаў у паэме ўзгадваецца мармелад.

**Н. Галабурда,**
**Ул. Зуеў**

# ПРАЕКТ ГІСТАРЫЧНАЙ РЭКАНСТРУКЦЫІ КВЕТНІКА І АГАРОДА МУЗЕЯ-СЯДЗІБЫ АДАМА МІЦКЕВІЧА Ў ЗАВОССІ

У гісторыі культуры кожнай краіны — вялікай і малой – ёсць імёны, якія з глыбінёй і яскравасцю адлюстроўваюць душу народа. Імёны гэтыя бессмяротны на працягу стагоддзяў. Іх думкі і творчасць, іх вялікае мастацтва захоўвае нацыянальныя карані, пераходзяць нацыянальныя межы і становяцца здабыткам усяго чалавецтва.

Адно з ганаровых месцаў у галерэі вялікіх асоб планеты займае Адам Міцкевіч, якога «сваі» лічаць беларусы, палякі, літоўцы. Ён нарадзіўся 24 снежня 1798 года на хутары Завоссе, якім да 1801 года валодалі яго бацькі.

Знакамітая сядзіба Завоссе знайшла сваё адлюстраванне ў мастацкіх творах Н. Орды, Я. Паўловіча, Т. Абмінскага, Ф. Бжазоўскага.

У 1998 годзе на падставе малюнкаў на гравюрах XIX ст. сядзіба была адноўлена, і тут быў адкрыты музей-сядзіба Адама Міцкевіча — філіял Музея гісторыі беларускай літаратуры. Сядзіба ўяўляла традыцыйны фальварак з наборам драўляных пабудоў і адносілася да традыцыйных напрыканцы XVIII – пачатку XIX стст. дробнашляхецкіх сядзіб. У цяперашні час музей-сядзіба з'яўляецца папулярным турыстычным аб'ектам.

Зараз фальварак Завоссе – літэратурна-мастацкі вобраз, які быў створаны на падставе паэтычных ілюстрацый, якія прапанаваў Адам Міцкевіч у паэме «Пан Тадэвуш». Адсюль і ўмоўная назва ўсёй музейнай экспазіцыі – «Вяртанне пана Тадэвуша».



*Напалеон Орда. Завоссе*



Вывучэнне вопыта аднаўлення сядзіб у Літве, Польшчы, Латвіі, Украіне паказвае важнасць стварэння адзінага ландшафтна-прасторавага комплекса. Терыторыя музея толькі пачынае развівацца на шляху набыцця аўтэнтычнага выгляду.

З мэтаю фарміравання адзінага ў гістарычным кантэксце музейнага комплекса Адама Міцкевіча, захавання і развіцця гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі выкладчыкамі і студэнтамі Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта пры ўдзеле ЭКГА "Неруш" быў распрацаваны праект «*Гістарычная рэканструкцыя агарода і кветніка часоў канца XVIII – пачатку XIX стст. у музеі-сядзібе А.Міцкевіча ў Завоссі (Баранавіцкі раён)*».

У межах праекта пастаўлены наступныя задачы:

1. закладка агарода і кветніка на тэрыторыі музея-сядзібы А.Міцкевіча ў Завоссі (Баранавіцкі раён) з традыцыйных для часоў канца XVIII – пачатку XIX стст. раслін;
2. інфармацыйнае афармленне экспазіцыі;
3. складанне экскурсійнага маршрута, які ўключаў бы азнаямленне з сельскагаспадарчымі і дэкаратыўнымі культурамі XVIII –XIX стст.

Ужо выканана задача па выяўленню відаў раслін, якія раслі на беларускіх агародах і кветніках напрыканцы XVIII – пачатку XIX стст. Для разбіўкі агарода і кветніка будуць адабраны тыя сучасныя гатункі раслін, якія по сваіх марфалагічных характарыстыках будуць у найбольшай ступені падобныя на тражцыйныя часоў канца XVIII – пачатку XIX стст. для тэрыторыі Беларусі.

Пры падборы відавога складу



раслін агарода і кветніка мы ўлічвалі гісторыю асваення садова-паркавых стыляў на тэрыторыі Беларусі. А.Т. Федарук адзначаў, што ў сядзібах канца XVIII – пачатку XIX стст вырошчваліся такія расліны, як календула, бальзамін, мальва, астра, настурцыя, маргарыткі і інш. Сад быў непазбежнай прыналежнасцю кожнай сядзібы. Пладовыя дрэвы лічыліся больш прадметам задавальнення, чым крыніцай даходаў.

Паэма А. Міцкевіча «Пан Тадевуш», на думку многіх даследчыкаў, з'яўляецца адлюстраваннем усёй эпохі паэта. У паэме было адзначана 69 віда кветкавых, дэкаратыўных, пладовых і агародных раслін, такіх як Агуркі, Ажына, Боб, Буракі, Вішня, Віка, Груша, Герань, Гарошак, Гарбуз, Жыта, Званок, Капуста, Канапля, Кукуруза, Каліна, Морква, Мак, Маліна, Незабудка, Пшаніца, Рабіна, Сланечнік, Туя, Фіялка, Хмель, Шчавель, Яблыня, Ячмень і інш.

Плануецца, што восенню гэтага года адбудзецца тэхнічная падрыхтоўка тэрыторыі, а у весну можна будзе высадзіць рассаду і насенне раслін, а таксама аформіць экспазіцыю.

**Ул. Зуеў**
**Н. Галабурда**

# ПУШКІН — МІЦКЕВІЧ: УЗАЕМАПЕРАКЛАД

## па матэрыялах міжнароднай навуковай канферэнцыі "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць", 1999

Двухсотгадовы юбілей Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна папераджальна пазначыўся ў Беларусі двухсотымі ўгодкамі Адама Міцкевіча. Святочна-імпрэзавая прадвызначанасць Пушкіна Міцкевічам — гэта не толькі вынік адпаведнай паслядоўнасці іх з'яўлення на свет і асабістага кантактавання. Гэта яшчэ ўмовы этапнага асэнсавання іх творчага збліжэння і палітычнага разыходжання, гэта, нарэшце, гістарычна-функцыянальнае спазнанне спадчыны паэтаў, генетычна звязаных, хоць і ў рознай ступені, з Навагрудкам.

Сучасны ўваход у творчасць абодвух вялікіх паэтаў адбываецца на ўзроўні далучэння да лёсу іх твораў, якія, выйшаўшы з роўнасці сабе і свайму часу, раскрываюцца новымі гранямі свайго мастацкага сэнсу і ўплываюць на ўзбуйненне звязаных з імі фактаў і з'яў у біяграфіі аўтараў ажно да сімвалаў і нават знакаў, да ўсведамлення жыццёвай невыпадковасці тых ці іншых падзей і больш таго — іх гістарычнай неабходнасці.

Талент Міцкевіча рэалізоўваўся пераважна за межамі радзімы — у выгнанні і ў эміграцыі. Пушкін жа за межы Расійскай імперыі не выязджаў, і калі яго, паводле звестак, прыведзеных А. Адынцом, спыталі, чаму ён не хоча пабачыць замежжа, ён адказаў: "*Характво прыроды я магу ўявіць нават больш*



*прыгожым, чым яно ёсць у сапраўднасці; тады, верагодна, паехаў бы дзеля ўведвання вялікіх людзей, але я знаёмы з Міцкевічам і ведаю, што больш вялікага нідзе не знайду*".

Пушкін і Міцкевіч нарадзіліся як быццам у адной дзяржаве, аднак Міцкевіч належаў да народа, які сваю дзяржаўнасць страціў, а Пушкін прадстаўляў імперыю, якая тую дзяржаўнасць анулявала. Гэта не так адбівалася на асабістых узаемадачыненнях паэтаў, як вызначала процілеглыя кірункі іх светапоглядных арыентацый — на дзяржаўнае грамадства ў Пушкіна і на грамадзянскую супольнасць у Міцкевіча. Не дзіва таму, што адзін і той жа гістарычны аб'ект мог выклікаць у паэтаў розныя асацыяцыі, адпаведныя з іх патрыятычнымі пачуццямі і грамадзянскім уяўленням. У "*Медным конніку*", напрыклад, Пушкін захапляецца Пецярбургам як увасабленнем дзяржаўнай задумы Пятра I, а Міцкевіч ва "*Урыўку*" "*Дзядоў*" (1832), паўночную сталіцу Расійскай імперыі ўспрымае як тварэнне злых, сатанінскіх сіл гісторыі.

Адрознае бачанне Пецярбурга спалучалася ў паэтаў з лёсавай для Расіі постаццю Пятра, рэальнай і сімвалічнай, суаднесенай з расійскай сучаснасцю як супярэчлівым для аднаго і трагічным для другога вынікам пятроўскіх рэформаў. Вершы "*Урыўка*" III часткі "*Дзядоў*" — "*Пецярбург*", "*Помнік Пятра Вялікага*", "*Агляд войска*" — былі напісаны Міцкевічам з усведамленнем таго, што пятроўская еўрапеізацыя Расіі прывяла да падзелу Рэчы Паспалітай. Пушкін жа, які тэме Пятра прысвяціў "*Стансы*" (1826), "*Палтаву*" (1828–1829) і "*Мой радавод*" (1830), на III частку Міцкевічавых "*Дзядоў*" адгукнуўся "*Медным коннікам*" (1833), перавёўшы палеміку ў літаратурна-філасофскае рэчышча пасля сваіх палітычна-публіцыстычных вершаў "*Паклёпнікам Расіі*" і "*Барадзінская гадавіна*"(1831) у сумеснай з В. Жукоўскім брашуры "На ўзяцце Варшавы…". З гэтымі вершамі, адзін з якіх ("Паклёпнікам Расіі") быў напісаны ў адпаведнасці з жаданнем Мікалая I і прачытаны аўтарам цару яшчэ да публікацыі, Міцкевіч, трэба думаць, быў знаёмы і, верагодна, усведамляў, каго з заходнееўрапейскіх палітыкаў дакараў расійскі паэт за падтрымку польскага паўстання. Сярод іх Пушкін бачыў, хоць і не называў, эмігранта Міцкевіча, пра што можа дадаткова сведчыць верш "*Ён жыў між нас…*", напісаны ў 1834 г. у адказ на Міцкевічаву палітычную сатыру і пасланне "*Сябрам-маскалям*" (1834). Паводле верша, Міцкевіч для Пушкіна не толькі сябар, у час выгнання ў Расіі, а і вораг, але ўжо ў эміграцыі, прытым вораг не асабісты і не безнадзейны, бо дасць Бог — адумаецца. Заключныя радкі гэтага незакончанага твора развіваюць тэму ў хрысціянскім кірунку, сведчачы пра паглыбленне роздуму расійскага паэта над трагічнымі ў сваёй аснове абставінамі яго палітычнага разыходжання з Адамам, схільным не пераводзіць палеміку ў палітычнае рэчышча.

Аднак ні Міцкевіч, якога хвалявала незалежнасць яго забранай радзімы, ні Пушкін, патрыятызм якога лучыўся з расійскай дзяржаўнасцю, ніводзін з іх не мог, усведамляючы сваё прызначэнне, пайсці на прыніжэнне творчасці другога дзеля дагаджэння часовай палітычнай сітуацыі. Пушкін, называючы Міцкевіча "песняром Літвы", часта апеляваў да яго ў сваёй паэзіі ці ўводзіў у творы рэмінісцэнцыі з яго вершаў, а Міцкевіч, калі Пушкіна не стала, апублікаваў у французскім часопісе "*Le Globe*" (27 мая 1837 г.) за подпісам "сябар Пушкіна" пранікліва артыкул-некралог, прысвечаны вялікаму рускаму паэту.

Асабістае знаёмства і ўведванне мастацкіх здабыткаў адно аднаго, так бы мовіць, з першых рук падвяло абодвух паэтаў да ўзаемадзеяння і ўзаемаўплываў тэм і матываў у іх творчасці не так у межах залежнасці, як на ўзроўні схаванага дыялогу, палемікі, суперніцтва. Пры напісанні цыкла крымскіх санетаў

ALTANKA



*Гурзуф Пушкіна і Міцкевіча*

Міцкевіч меў перад сабою ўзор асваення Пушкіным усходняй тэматыкі — паэму “*Бахчысарайскі фантан*” і не прамінуў з захапленнем згадаць гэты твор у каментарыі да санета “*Пахавальня Патоцкай*”. Пушкін, у сваю чаргу, пасля выхаду ў Маскве Міцкевічавай кнігі “Санеты” (1826), адзін з першых у рускай паэзіі пачаў асвойваць гэтую строга рэгламентаваную класічную форму верша і напісаў своеасаблівы эталагічны цыкл з трох санетаў. Адзін з іх уяўляе сабой паэтычную гісторыю заходнееўрапейскага санетнага жанра, у якой першы тэрцэт цалкам прысвечаны “песняру Літвы” А.Міцкевічу.

У лютым 1828 г. А. Міцкевіч выдаў у Пецярбургу паэму “*Конрад Валенрод*”, і Аляксандр Сяргеевіч намерваўся яе перакласці. У яго нават быў рукапісны падрадковы пераклад. Аднак у часопісе “Московские ведомости” (1829. Ч. I) з’явіўся толькі ўрывак, або, дакладней, няпоўны пераклад “Уступу” да гэтай паэмы. Асноўнай прычынай таго, што рускі паэт спыніў пераклад, быў, відаць, макіавелізм паэмы, у якой “песняр Літвы” імкнуўся сцвердзіць права прыгнечанага на барацьбу, нават коштам пранікнення ў лагер ворага і часовага служэння яму дзеля будучай помсты.

Вольным назваў Пушкін свой пераклад балады Міцкевіча “*Czaty*”, даўшы ёй назву не “*Дозор*”, якая адпавядала б польскай, а “*Воевода*”. Пры захаванні сюжэтнай лініі арыгінала і яго асноўных рэаліяў Пушкін пайшоў на іншае строфабудаванне і рытмічную арганізацыю радкоў.

Адначасова з “Воеводой” Пушкін пераклаў у Болдзіне яшчэ адну баладу Міцкевіча — “*Trzech Budrysyw*” (“*Будрыс и его сыновья*”). На думку даследчыкаў, гэты пераклад рускага паэта вельмі блізкі да польскага арыгінала метрычна і інтанацыйна. Яшчэ больш беражліва ўзнавіў змест незакончага пушкінскага верша “*Воспоминание*” (“*Przypomnienie*”) Міцкевіч.

Перакладаючы тэкст рускага арыгінала, Міцкевіч імкнуўся не толькі да ўзнаўлення яго вобразаў і адценняў думкі, але і да захавання лексікі, нават коштам змен у паслядоўнасці выкладу вершаваных рэалій. Выбраўшы з медытатыўнай лірыкі Пушкіна найбольш блізкі да сябе па духу верш, навагрудскі геній пацвердзіў і свой паэтычны талент, і здольнасць пераўвасабляцца.

Такім чынам, Пушкін і Міцкевіч паказалі розныя падыходы да перакладу: Міцкевіч прыстасоўваўся да арыгінала, Пушкін прыстасоўваў арыгінал да сябе.

**Ул. Мархель**

